*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 26(134) ◈ 30 чэрвеня 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



75 гадоў таму з «друкарні пана Марціна Кухты» выйшла ў беларускі свет невялікая кніжка. Яе напісаў кандыдат філалогіі Петраградскага універсітэта Браніслаў Тарашкевіч. «Беларуская граматыка для школ» — так яна называлася — была падрыхтавана (і надрукавана) дзвюма графікамі: кірыліцай і лацінкай.

Нашаму народу, штучна падзеленаму на «палякаў» і «рускіх», яна была неабходна як паветра, бо пераканаўча сведчыла, што мы — адзіны народ, што мы — Беларусы!

БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА

ДЛЯ ШКОЛ

Напісаў кандыдат філёлёгіі Петраґр. Універ.

Б. Тарашкевіч.



Выданьне «Беларускага Камітэту».

ВІЛЬНЯ.
Друкарня М. Кухты.
1918 г.

strona tytułowa pierwszego wydania „Białoruskiej gramatyki dla szkół"

Антон Шукелайць, лідэр Беларуска-амерыканскага задзіночання ў інтэрв'ю карэспандэнту газеты «Літаратура і мастацтва» адзначыў вялікую занепакоенасць беларускай эміграцыі апошнімі падзеямі на Бацькаўшчыне. «Вышэйшыя ўлады Беларусі, — сказаў ён, — не спрыяюць руху дзяржавы наперад, па шляху дэмакратыі. Напрыклад, Вярхоўны Савет прагаласаваў супраць рэферэндуму. Гэта вельмі моцна падрывае аўтарытэт Беларусі ў вольным свеце і азначае, што Вярхоўны Савет ідзе ў кірунку аўтарытарнай улады, «дыктатуры». І гэта ў той абстаноўцы, калі адноўлена дзейнасць камуністычнай партыі».

«Дзіўна і трывожна чуць нам у Амерыцы, — сказаў сп. Шукелайць, — пра ўвядзенне ў Беларусі двухмоўя. Гэта сведчыць аб тым, што, як пішуць цяпер у Амерыцы, Беларусь інтэгруецца не ў Савецкі Саюз, як раней, а ў Расію. Аб гэтым мы будзем інфармаваць амерыканскіх палітычных дзеячаў у дзярждэпартаменце, кангрэсе, сенаце».

**РАШЭННЕМ САВЕТА МІНІСТРАЎ** ваенна-гістарычны музей Узброеных сіл ператвораны ў Дзяржаўны музей ваеннай гісторыі Беларусі.

***ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПРЫНЯЎ РАШЭННЕ** аб наданні граніцам Рэспублікі Беларусь з Расійскай Федэрацыяй, Літоўскай Рэспублікай, Украінай і Латышскай Рэспублікай статусу дзяржаўных.*

***Споўнілася 4 гады з дня заснавання Рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы (27.06.89 г. адбыўся Устаноўчы з'езд).***

***Сардэчна віншуем руплівцаў на ніве нацыянальнага адраджэння з юбілеем. Жыве Беларусь!***

## ВЫ АБАРОНІЦЕ БЕЛАРУСЬ І ЯЕ МОВУ СЁННЯ, БЕЛАРУСЬ АБАРОНІЦЬ ВАС ЗАЎТРА

Як ужо паведамляла «Наша слова», 3 чэрвеня ў Гародні адбылася I абласная канферэнцыя ТБМ імя Ф. Скарыны, на якой была ўтворана Гарадзенская абласная філія ТБМ. Дэлегаты прынялі шэраг зваротаў. У звароце «Да народа Беларусі» гаворыцца: «...Крок за крокам мы ідзём да поўнай незалежнасці, да таго стану грамадства і душаў нашых, калі кожны стане гаспадаром і сваіх думак, і сваёй маёмасці, а ўсе разам мы станем гаспадарамі сваёй цудоўнай і непаўторнай Радзімы, сваёй Беларусі. Але гэта моцна не падабаецца розным злыдням і недаваркам, якія хацелі б і надалей бачыць Беларусь калоніяй. А таму яны робяць усё, каб стварыць як мага болей перашкодаў на гэтым нашым шляху. Яны выбралі аб'ектам галоўнага ўдару самае слабае месца нашай дзяржавы, нашай незалежнасці, нашай нацыі, яны выбралі для ўдару шматпакутную, знявечаную, безабаронную беларускую мову...»

Далей у звароце першая абласная канферэнцыя Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Гарадзенскай вобласці заклікае людзей:

«Паўстаньце на абарону нашай роднай мовы;

Старайцеся размаўляць па-беларуску самі і вучыце сваіх дзяцей;

Патрабуйце пераводу ўсіх садкоў, усіх школаў і ўсіх прадметаў у гэтых школах на беларускую мову;

Мяняйце, дзе толькі можна, шыльды, афішы, аб'явы і г. д., каб паўсюль вакол нас запанавала беларускае слова;

Купляйце беларускія кніжкі, выпісвайце беларускія газеты, афармляйце сваё рабочае месца па-беларуску;

Не будзьце абыякавымі, давайце рашучы адпор усім, хто спрабуе бэсціць нашую мову;

Ганарыцеся нашай краінай, нашай гісторыяй, нашай мовай;

Патрабуйце ад сваіх дэпутатаў усіх узроўняў рашучых дзеянняў у абарону беларускай мовы;

Усімі магчымымі сродкамі не дапускайце да ўлады і на кіруючыя пасады людзей, якія не любяць і не ведаюць беларускую мову;

Давайце рашучы адпор усім спробам увесці і нават гутаркам пра другую дзяржаўную мову. Дзяржаўнае двухмоўе — гэта смерць беларускай нацыі.

Вы абароніце беларускую мову і Беларусь сёння, Беларусь абароніць вас заўтра» — такімі словамі заканчваецца зварот Гарадзенскай абласной канферэнцыі ТБМ імя Ф. Скарыны.

Гарадзенская абласная канферэнцыя ТБМ імя Ф. Скарыны прыняла зварот да народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Гарадзенскай вобласці. У ім, у прыватнасці, гаворыцца: «Апошнім часам ворагі беларускага нацыянальнага адраджэння ў прарасійска-шавіністычнай і камуністычнай прэсе ўсчалі шалёную атаку на беларускую мову, патрабуючы ўвядзення другой дзяржаўнай мовы — расійскай. Яны выдатна разумеюць, што гэта абазначае

*Працяг на с. 2.*

*Ва ўрадавай рэзідэнцыі «Заслаўе» адбылася сустрэча прэм'ер-міністра Беларусі В. Кебіча з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі. Гаварылі шмат, але якая з гэтага будзе карысць, пакажа час.*

*Прэм'ер-міністр В. Кебіч адклаў запланаваную паездку ў Маскву для сустрэчы з В. Чарнамырдзіным у сувязі з нечаканай хваробай кіраўніка расійскага ўрада. Праўда, хвораму хапае сіл выступаць па расійскім тэлебачанні. Ці не звязана хвароба з ультыматумам наконт рублёвай залежнасці Беларусі ад Расіі?*

***Упершыню ў гісторыі нашай краіны вядучымі вучонымі і педагогамі-практыкамі створаны падручнік «Гісторыя Беларусі» для вучняў V—VI класаў.***

***Выканаўчая рада Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў вызначыла дату чарговага з'езда гэтай арганізацыі. Ён адбудзецца 20—21 лістапада 1993 года.***

## Праз народную творчасць— да нацыянальнай годнасці

*У Менску адбылася Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя па праблемах народнай творчасці, арганізатарамі якой сталі міністэрствы культуры, адукацыі і інфармацыі Рэспублікі Беларусь, а таксама Асацыяцыя беларускіх фалькларыстаў, ад імя якіх і віталі прысутных міністр інфармацыі А. Бутэвіч, першы намеснік міністра культуры У. Гілеп, намеснік міністра адукацыі Г. Бутрым і член-карэспандэнт АН РБ А. Лойка.*

У КАНФЕРЭНЦЫІ ўзялі ўдзел прафесар Варшаўскага універсітэта А. Баршчэўскі, старшыня фальклорнай камісіі Саюза кампазітараў доктар мастацтвазнаўства З. Мажэйка, доктар філалагічных навук А. Фядосік, кандыдат філалагічных навук, прэзідэнт Асацыяцыі Беларускіх фалькларыстаў В. Ліцвінка, в.а. начальніка галоўнага ўпраўлення выдавецкай дзейнасцю і сродкамі масавай інфармацыі Міністэрства інфармацыі РБ У. Ламека, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі «Свята» В. Купрыяненка (выступілі на пленарным пасяджэнні), а таксама супрацоўнікі радыё, тэлебачання, друку, прадстаўнікі рэспубліканскіх культурных установаў, кіраўнікі мастацкіх гуртоў, фалькларысты і этнамузыколагі рэспублікі (выступілі на секцыях).

Былі вылучаны тры праблемы: захаванне і зберажэнне аўтэнтычнага фальклору, фарміраванне фальклорам нацыянальнай свядомасці грамадзян і яго прапаганда ў сродках масавай інфармацыі.

Адзначым, што народнае мастацтва зараз бытуе на Беларусі ў трох формах: аўтэнтычнага фальклору, арганізаванай мастацкай самадзейнасці і прафесійных калектываў на народнай аснове. Найбольш безабаронным і неабароненым застаецца першасная форма, адкуль, як адзначыла ў сваім дакладзе З. Мажэйка, «чэрпаюць усе, а аб самааднаўленні якой не дбае ніхто». Сённяшні стан аўтэнтычнага жывога фальклору, што

**Працяг на с. 2.**




## Беларуская школа ў Маскве

У Маскве пры Беларускім культурным таварыстве працуе нядзельная школа. Спачатку была прапанова стварыць гімназію пры пасольстве Рэспублікі Беларусь (для дзяцей дыпламатаў і тутэйшай беларускай дыяспары). Але дыпламаты палічылі за лепшае, каб іх дзеці вучыліся ў звычайнай расійскай школе. Прыклад пасольстваў заходніх краін (Францыі, Англіі) іх не пераканаў.



Амаль цэлы калектыў Янаўскай (Іванаўскай) друкарні, за выключэннем дырэктара і яшчэ колькіх чалавек з адміністрацыі, вырашылі пакінуць афіцыйны прафсаюз работнікаў культуры. Прычынай гэтага кроку з'явілася поўная страта веры ў здольнасць бараніць правы працоўных савецкімі трэдюніёнамі.

# ВЫ АБАРОНІЦЕ БЕЛАРУСЬ І ЯЕ МОВУ СЁННЯ, БЕЛАРУСЬ АБАРОНІЦЬ ВАС ЗАЎТРА

*Заканчэнне. Пачатак на с. 1.*

смерць беларускай мовы, смерць беларускай нацыі, смерць беларускай дзяржавы.

...Наданне дзяржаўнасці расейскай мове выкліча на Гарадзеншчыне масавы рух за наданне статуса дзяржаўнай і польскай мове, а ў некаторых раёнах і летувіскай і татарскай.

...Мы патрабуем ад вас, шаноўныя народныя абраннікі зямлі Гарадзенскай:

1. Стварыць у Вярхоўным Савеце фракцыю Гарадзенскай вобласці ў абарону беларускай мовы;

2. Даваць рашучы адпор на сесіях, у друку, перад народам усялякім спробам працягнуць ідэю двухмоўя;

3. Рашуча выступаць за выкананне «Закона аб мовах», выкарыстоўваць свае паўнамоцтвы народных дэпутатаў для яго своечасовага і поўнага выканання.

Беларуская мова павінна застацца адзінай дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь!»

У звароце ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь Гарадзенская абласная канферэнцыя ТБМ імя Ф. Скарыны патрабуе дзеля здзяйснення палітыкі нацыянальнага адраджэння, дзеля ратунку беларускай мовы стварыць дзяржаўны камітэт (міністэрства) беларускай мовы, а ў абласных, раённых і гарадскіх саветах стварыць аддзелы па кантролю за правядзеннем адзінай моўнай палітыкі.

Звяртаючыся ў Гарадзенскі абласны Савет народных дэпутатаў, Гарадзенская абласная канферэнцыя ТБМ імя Ф. Скарыны патрабуе дзеля поўнага і эфектыўнага выканання «Закона аб мовах» стварыць у аблвыканкаме аддзел па кантролю за правядзеннем адзінай моўнай палітыкі ў Гарадзенскай вобласці (аддзел беларускай мовы).

## Пастанова
### *I абласной канферэнцыі ТБМ імя Францішка Скарыны*

**Грунтуючыся на рашэннях III з'езда ТБМ імя Францішка Скарыны I Рэспубліканскай Рады ТБМ, I Гарадзенская абласная канферэнцыя ТБМ пастанаўляе:**

**1. Утварыць Гарадзенскую абласную філію Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны;**

**2. Гарадзенская абласная філія з'яўляецца неад'емнай часткай рэспубліканскага таварыства, у сваёй дзейнасці кіруецца Статутам ТБМ, рашэннямі з'ездаў ТБМ і Рэспубліканскай Рады ТБМ;**

**3. Гарадзенская абласная філія з'яўляецца самастойнай арганізацыяй у межах Гарадзенскай вобласці, дзеля дасягненняў мэтаў таварыства дзейнічае самастойна з выкарыстаннем уласных сродкаў і спосабаў, з улікам рэгіянальных асаблівасцяў;**

**4. Гарадзенская абласная філія мае свой рахунак у банку і пячатку;**

**5. Гарадзенская абласная філія ТБМ імя Францішка Скарыны падлягае рэгістрацыі ў органах юстыцыі, як самастойная юрыдычная асоба;**

**6. Гарадзенская абласная філія мае права выдавецкай, культурна-асветніцкай, культурна-камерцыйнай дзейнасці;**

**7. Гарадзенская абласная філія ТБМ складаецца з раённых, гарадскіх, местачковых і іншых арганізацый ТБМ;**

**8. Вышэйшым органам кіраўніцтва Гарадзенскай абласной філіі ТБМ з'яўляецца абласная канферэнцыя, якая збіраецца не радзей аднаго разу ў два гады. Паміж канферэнцыямі філіяй кіруе Гарадзенская абласная рада ТБМ. Рада выбіраецца на абласных канферэнцыях. Пасяджэнні рады праводзяцца 1 раз у 3 месяцы або па неабходнасці;**

**9. Сродкі Гарадзенскай абласной філіі складаюцца з сяброўскіх пералічэнняў суполак, паступленняў ад выдавецкай і іншай дзейнасці, ахвяраванняў фундатараў;**

**10. Сяброўства ў Гарадзенскай філіі ТБМ з'яўляецца свабодным і добраахвотным;**

**11. Напрамкі дзейнасці філіі вызначаюцца абласной канферэнцыяй і абласной радай ТБМ.**

**Пастанова прынята аднагалосна на I абласной канферэнцыі ТБМ імя Францішка Скарыны.**

# ПРАЗ НАРОДНУЮ ТВОРЧАСЦЬ—

*Заканчэнне. Пачатак на с. 1.*

бытуе ў вуснай форме, выклікае вялікую трывогу. Справа ў тым, адзначыла дакладчыца, што доўгія гады пры савецкай уладзе яго пад розным выглядам старанна вынішчалі. Ён вынішчаўся ў час барацьбы з нацыяналізмам і рэлігіяй, пры разбурэнні так званых «неперспектыўных вёсак», калі аб'яўляўся «ворагам прагрэсу» і «перажыткам мінуўшчыны», у час супрацьалкагольнай кампаніі, калі старыя абрады (вясельныя, хрэсьбінныя, пахавальныя) замяньвалі прыдуманымі новымі. Зусім нядаўна ў цяжкай барацьбе з уладамі аднавіліся абрады калядавання, валачобніцтва, гукання вясны, Купалле. А колькі пацярпела пісьменнікаў, мастакоў, творчых работнікаў за выкарыстанне «мясцовага каларыту», за арыентацыю на духоўныя скарбы народа. Вясковы фальклор вынішчаўся, як і родная мова, што замяньвалася ў побыце і на дзяржаўным узроўні на «культурную» рускую. Палітызацыя і ідэалагізацыя ў галіне культуры прынесла страшныя вынікі: амаль нерарвана пераемная повязь пакаленняў на вёсцы, моладзь не наследуе народныя традыцыі, не пераймае жывы фальклор з вуснаў яго носьбітаў — бацькоў і дзядоў, бо выхавана ў пагардзе да свайго роднага і нацыянальнага.

ІСНУЕ ТАКАЯ «СУЦЯШАЛЬНАЯ» ДУМКА і тэндэнцыя ў нашых адраджэнцаў, што аднаўляць фальклор можна ў арганізаванай самадзейнасці. Але ж другасная крыніца не можа замяніць першакрыніцу, як не могуць маладыя сады замяніць адвечны лес, якім з'яўляецца для нас аўтэнтычны фальклор, зняць праблему яго аховы.

Навуковыя дадзеныя сведчаць аб тым, што беларускі фальклор найбагацейшы ў Еўропе. І калі ў многіх рэгіёнах свету па розных прычынах ён знішчаны амаль канчаткова, то ў большасці рэгіёнаў Беларусі яшчэ захаваўся. Узнікае пытанне, як зберагчы духоўную каштоўнасць беларусаў, якую прызнаў увесь свет?

На думку З. Мажэйкі і яе аднадумцаў, аўтэнтычны фальклор выжыве, калі будзе ахоўвацца законам. Немагчыма зберагчы ўсе віды народнага мастацтва, калі яго носьбітаў пераакцэнтаваць пад густы сярэдняга гарадскога абывацеля, бо сёння, як і раней, яны саромеюцца спяваць па-свойму. Самае страшнае, што цяпер пагражае жывому фальклору, - гэта бязмежная камерцыялізацыя ў мастацтве, якой ахоплена масавая культура, арыентацыя на ўтылітарны спажывецкі прэстыж. І другое. Паратунак прыйдзе тады, калі жывы фальклор будзе стымулявацца ў сваім вясковым асяроддзі: людзі будуць іграць і спяваць па-даўнейшаму старажытныя творы ў паўсядзённым жыцці, а не толькі на канцэртах і вечарынах. Захаванне вуснай народнай традыцыі магчыма пры ўмове, калі вясковыя дзеці, прымаючы эстафету ад старэйшага пакалення, будуць вывучаць фальклор ад мясцовых жыхароў, а не ад прыезджых культработнікаў.

«Фальклор і фарміраванне менталітэту беларусаў» — тэма даклада А. Фядосіка. Дакладчык запыніўся на праблеме, якая яшчэ ў фальклярыстыцы як след не распрацавана. Ментальнасць — гэта тое самае, што псіхічны склад нацыі як даўней казалі. Яна вызначае спосаб мыслення, асаблівасці нацыянальнага характару, да якіх можна аднесці і нашу славутую талерантнасць. Ментальнасць выпрацоўваецца вякамі на глебе жыцця этнасу — духоўнага, матэрыяльнага, сацыяльнага. Калі ментальнасць — этнічная самасвядомасць, то менталітэт паказвае глыбінны ўзровень калектыўнага і індывідуальнага светаўспрымання. Вучоны паказаў, якія менавіта традыцыйныя формы беларускага фальклору актыўна фарміравалі ментальнасць народа. Найбольшае значэнне мелі тыя жанры і віды, што складаюць спецыфіку беларускай народнай паэзіі, яе адметнасць і непаўторнасць — гэта казкі, абрады, вераванні, звычаі, святы, многія з якіх захаваліся адно на Беларусі (як хаджэнне валачобнікаў, пахаванне Стралы, Куст, Купалле і інш.).

«На працягу стагоддзяў, — зазначыў дакладчык, — складвалася сістэма жанраў і відаў беларускай народнай творчасці, сістэма калядных і сямейных звычаяў, абрадаў і рытуалаў, якія вызначаліся самабытнымі нацыянальнымі рысамі і эфектыўна ўплывалі на этнічную самасвядомасць беларусаў».

Спадар Хвядосік спыніўся таксама на мерапрыемствах, якія праводзяцца па лініі ЮНЭСКА і накіраваны на ахову, развіццё і абарону фальклору ва ўсім свеце. На яго ідэнтыфікацыю, захаванне і выкарыстанне.

НАЦЫЯ стаіць на парозе маральнай дэградацыі, — адзначыў у сваім дакладзе «Фальклор у сродках масавай інфармацыі» У. Ламека. На-ранейшаму ў многіх сферах грамадскага жыцця верхаводзяць манкурты, якія імкнуцца пусціць на звод беларусаў і іх культуру. Таму так цяжка прабівацца нашаму Адраджэнню праз напластаванні хлусні і гістарычнага бяспамяцтва.

Беларускі фальклор, паколькі ён вяртае народу нацыянальную самасвядомасць, актыўна прапагандуецца ў сродках масавай інфармацыі. Калі гаварыць пра работу Белтэлерадыёкампаніі, то найбольшая нагрузка ў гэтым сэнсе прыпадае на літаратурна-драматычныя, музычныя, дзіцячыя і маладзёжныя праграмы. На тэлебачанні — гэта «Калыханка», «Вячоркі», цыклы перадач «Правінцыя» і «Скарб-93», работы творчых калектываў — фальклорнага тэатра «Госціца», студыі «Сэнс», рэдакцыі «Крок» і інш. На радыё — гэта перадачы радыёстанцый «Беларуская маладзёжная», «Спадчына» (вядучыя В. Сямашка, Р. Гамзовіч), студыі «Жывіца», цыкл радыёперадач «Народныя скарбы» (вядучая Л. Бацюшкава), а таксама перадачы радыёстанцыі «Беларусь», што вяшчае на замежжа. Шмат карысных і цікавых перадач на фальклорныя тэмы рыхтуюць абласныя тэлерадыёаб'яднанні. Гэта і праграма «Гарадніца» Гродзенскай студыі тэлебачання з рубрыкамі «Адкуль мы ёсць», «Крыніцы жыватворныя», «Ад прадзедаў і дзядоў», «З глыбінь народных», і перадача для дзяцей «Церамок» Брэсцкага тэлебачання, і мастацка-публіцыстычная праграма «Берасце» з яе пастаянным вядучым М. Пракаповічам, і праграмы Віцебскага радыё «Адраджэнне народных традыцый», «Нам засталася спадчына», тэлечасопіс «Дзвіна» і многае іншае.

Вялікую ролю ў азнаямленні дзяцей з народнай творчасцю і ў іх патрыятычным выхаванні адыгрывае перадача «Калыханка» (педагогі Л. Рыжкова і Я. Ліс). У выніку супрацоўніцтва з Рэспубліканскім цэнтрам эстэтычнага выхавання дзяцей яна паказвае абрадавыя святы, вучыць народным гульням. У перадачах удзельнічае тэатр «Батлейка» і збіральніца народнай творчасці Т. Цыбульская, «жывыя казкі» якой максімальна набліжаны па выкананні да аўтэнтычнай крыніцы.

Апантана працуе на тэлебачанні першая ластаўка нашага Адраджэння — «Госціца», цыкл перадач якой цалкам пабудаваны на аўтэнтычным фальклоры (кіраўнікі Л. Сімаковіч і Л. Новік). Створаны ў гады гарбачоўскай перабудовы, гэты самабытны калектыў патрабуе да сябе больш дбайных адносін з боку кіраўніцтва тэлерадыёкампаніі.

Існуюць палярныя погляды на перадачу «Вячоркі», адзначыў спадар Ламека: адны яе лічаць другаснай, стылізаванай пад фальклор, што наносіць шкоду фальклору аўтэнтычнаму, іншыя ў захапленні ад «Вячорак». Сам дакладчык лічыць, што прапагандавацца ў сродках масавай інфармацыі павінен як аўтэнтычны, так і «другасны» фальклор. Галоўнае, каб было паразуменне ў працы вучоных — фалькларыстаў і этнамузыказнаўцаў, якія прыцягваюцца да тэле- і радыёгутарак са стваральнікамі фальклорных праграм, бо, акрамя такіх бядот, як нацыянальны нігілізм, бяспамяцтва, чарнобыльская навала, нас падсцерагае яшчэ адна небяспека — нацыянальнае самаедства.

ЦЯЖКА ПЕРААЦАНІЦЬ ролю студыі музычных праграм радыё ў прапагандзе аўтэнтычнага фальклору. Праца гэта праводзіцца ўжо дваццаць гадоў у цесным супрацоўніцтве з З. Мажэйкай, Т. Варфаламеевай, І. Назінай, Г. Кутыровай, Г. Барташэвіч і іншымі этнамузыказнаўцамі. У свет выпушчаны грампласцінкі, створаны фонаархіў аўтэнтычнага фальклору, сабрана фанатэка лепшых яго ўзораў з арыентацыяй на вядомых выканаўцаў.

Радыёпраграма «Спадчына» адлюстроўвае дзейнасць Беларускага фонда культуры, маладзёжных фальклорных суполак, клубаў і аб'яднанняў.

Жорсткай крытыцы ў дакладзе спадара Ламекі падвергліся фальклорныя перадачы ў маладзёжным прафесійным, так бы мовіць, мастацтве. Духоўнасці і маралі ў гэтых праграмах становіцца ўсё менш, а агрэсіўнасці і

# На нашых гонях

## ПАРАЗУМЕЛІСЯ

Прашу дзяўчыну-прадаўца, якая, відаць, нядаўна скончыла школу:

— Мне, калі ласка, чырвоны стрыжань.

Дзяўчына:

— Што?

Чырвоны стрыжань.

Насцярожылася:

— Што-о?

— Хачу купіць чырвоны стрыжань,— кажу цвёрда.

На твары ў дзяўчыны разгубленасць, недаўменне.

— Што-о-о?

Я кажу па складах:

— Чыр-во-ны стры-жань. Ка-лі лас-ка.

Дзяўчына глядзіць на мяне са страхам, быццам я буйны вар'ят ці ў руцэ ў мяне рэвальвер.

— Чырвоны стрыжань. Калі ласка,— паўтараю. А пасля дадаю: — Гэта беларуская мова. Разумееце? Беларуская. Вы хто па нацыянальнасці?

— Па пашпарту беларуска...

Я, перагнуўшыся праз прылавак, паказваю пальцам:

— Дайце вунь тое. Яно пішa чырвоным.

— А-а, стержень,— дзяўчына з палёгкай засмяялася.

Смяюся і я: нарэшце паразумеліся.

## ПАДУМАЛА — ПАЛЯК

Не так даўно сустракаўся з дзецьмі адной з гарадскіх школ. Пасля выступлення падыходзіць маладая настаўніца і сарамліва кажа:

— Сакратарка нашага дырэктара падумала, што вы паляк, прыехалі з Польшчы.

— З Польшчы? — дзіўлюся.

— Думала, прыехалі з нейкай дэлегацыяй.

— Але чаму?

— Вы да яе звярнуліся на беларускай мове. Падумала, што вы паляк.

*А. ЯКІМОВІЧ.*

# «Родны край» — «газета ў газеце»

**Маладзечанскае аддзяленне ТБМ імя Ф. Скарыны ў студзені 1991 года выпусціла інфармацыйна-публіцыстычнае выданне «Родны край». На жаль, адбыўся толькі разавы выпуск газеты, і на гэтым справа прыпынілася.**

**Сёлета, 2 чэрвеня, пасля дасягнутай дамоўленасці паміж Маладзечанскім аддзяленнем ТБМ імя Ф. Скарыны і рэдакцыяй «Маладзечанскай газеты» аб выпуску «Роднага краю» як «газеты ў газеце», выданне зноў прыйшло да чытачоў. У адноўленым «Родным краі» для аматараў паэзіі ў рубрыцы «Невядомы Купала» змешчаны купалаўскі верш «Ворагам Беларушчыны». Па просьбе творчай групы Маладзечанскага аддзялення ТБМ імя Ф. Скарыны народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч даслаў для чытачоў «Роднага краю» адзін са сваіх самых папулярных вершаў «І ўсё-такі дойдзем!», які стаў песняй і гучыць у выкананні студыі «Сябры». Тут жа змешчаны верш Н. Гілевіча, прысвечаны заснавальнікам фэсту беларускай песні і паэзіі «Сардэчная песня».**

**Доктар гістарычных навук Генадзь Каханоўскі прапануе чытачам «Роднага краю» агляд творчых набыткаў маладзечанскіх паэтаў, празаікаў і навукоўцаў. Друкуецца «Роздум каля помніка» Міколы Капыловіча.**

**Матэрыялы «Роднага краю» падрыхтавалі Г. Кановіч, В. Маркелава і М. Капыловіч. Думаецца, што суполкі ТБМ, якія не маюць сваіх перыядычных выданняў, але маюць жаданне іх мець, маглі б узяць прыклад з Маладзечанскага аддзялення ТБМ імя Ф. Скарыны.**

**Да ўсяго хочацца напомніць, што ў кожнага сябра ТБМ ёсць магчымасць выказаць свае думкі — праз газету «Наша слова».**

## Маладзечанскае аддзяленне ТБМ у паўсядзённай рабоце

Стараннямі Управы Маладзечанскага аддзялення ТБМ вучні пачатковых класаў горада і раёна на будучы навучальны год забяспечаны дыдактычнымі матэрыяламі, мастацкімі дзіцячымі творамі і падручнікамі на роднай мове. Прыдбаны кніжкі з цудоўным афармленнем і яскравымі малюнкамі для маленькіх дзетак. У іх змешчаны займальныя рэбусы, крыжаванкі, загадкі, смяшынкі, задачы і галаваломкі. Акрамя гэтага, набыты кніжкі па беларускай гісторыі і мастацтву.

* * *

Усе мы час ад часу бываем пасажырамі. І многія, відаць, заўважылі, што на вакзалах Маладзечна галасы дыктараў і вадзіцеляў усё часцей гучаць на роднай мове. У хуткім часе на беларускай мове будуць аб'яўляцца і прыпынкі ў гарадскім транспарце.

Не так даўно, як паведамлялася ўжо ў мясцовым і рэспубліканскім друку, быў пераназваны шэраг вуліц нашага горада. Ім вернуты спрадвечныя гістарычныя назвы. Цяпер надышоў час вярнуць з забыцця на аўтобусных маршрутах назвы прыпынкаў горада. І гэта было зроблена гарвыканкамам і кіраўніцтвам аўтапарка № 4 пры актыўным удзеле ТБМ. Напрыклад, прыпынак «Хлебазавод» пераназваны на прыпынак «Галянова», былы «Пуцеправод» на «Ліпкі», «ДРБУ» на «Завань», прыпынак «Дом № 234» на «Капліца», «Тэхаснастка» на «Здземелева» і інш.

# ДА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ГОДНАСЦІ

ваяўнічасці больш. Ствараецца ўражанне, што нехта свядома дае ўстаноўку нашым «улісам», «мроям» і іншым на мэтанакіраванае выветрыванне памяці, на падрыў народных асноў светапогляду.

## Не зводзіць адраджэнне да культу лапцяў

ГАВОРКА ПРА РОЛЮ сродкаў масавай інфармацыі ў фарміраванні фальклорам нацыянальнай свядомасці і яго прапагандзе працягвалася на пасяджэнні секцыі.

Спадар Шавыркін запыніўся на пытанні прапаганды фальклору ў друку. Сярод перыядычных выданняў Міністэрства асветы РБ найбольш звяртаецца да духоўнай спадчыны беларусаў «Пралеска» — часопіс, на старонках якога сталa прапісаліся разнастайныя фальклорныя жанры (матэрыялы «Маладзічка — гадавічка», «Азбукоўніка і лічылкі» і інш.). Аднак не заўсёды да нашага духоўнага багацця мы адносімся ашчадна. Друкуючы сцэнарыі народных свят (прыкладны ход дзеянняў), мы ўніфікуем творчасць народа. Трэба апісваць абрады і святы, паказваць ролю іх удзельнікаў, расшыфроўваць і тлумачыць сімвалы, рытуалы, тэксты і вобразы.

Выступленне І. Назінай было прысвечана традыцыйнай народнай музыцы — унікальным выканаўцам і інструментам. Яна прапанавала стварыць на радыё спецыяльныя групы, якія запісвалі б аўтэнтычны фальклор на месцах. Этнамузыказнаўца пазнаёміла ўдзельнікаў секцыі з рэдкімі запісамі аўтэнтыкі (абрад «Куст», трыо скрыпачоў, ігра народнага музыкі на самаробнай дудзе).

У палемічных выступленнях называліся неглыбокія, непрафесійныя перадачы, адзначалася, што на практыцы часта адсутнічае адбор фальклорных твораў і яго выканаўцаў — запрашаюцца майстры высокага класа і тыя, што не дараслі да майстэрства. Крытычныя заўвагі «адхапілі» «Вячоркі».

Адзначалася, што на радыё больш удала каментыруецца і падаецца аўтэнтыка. Спадар Лозка крытыкаваў календары, апублікаваныя ў многіх газетах, дзе пануе блытаніна. Па сутнасці, гэта рускія календары, не звязаныя з беларускім народным календаром. Нават прыказкі калькуюцца з рускіх тэкстаў.

РАСТУЦЬ ДЗЕТКІ, на лес гледзячы. Так бы сказалі прадзеды, каб убачылі наша «падрастаючае пакаленне». Ды і мы ўжо спахапіліся. Як выхаваць у дзетак беларусаў нацыянальную свядомасць, як выкарыстоўваць для гэтай мэты казкі, паданні, легенды, песні, прыказкі ды прымаўкі, створаныя нашымі прашчурамі? Свае меркаванні, прапановы па гэтай праблеме выказалі на пасяджэнні секцыі «Фальклор як сродак выхавання дзяцей» вучоныя, выкладчыкі ВНУ. Вопытам падзяліліся настаўнікі, работнікі культуры. Выступіла больш за 20 чалавек, а для іншых жорсткі рэгламент не прадугледзеў часу.

Гаворка адбылася цікавая, канструктыўная — хто хацеў, шмат чаго мог пераняць. Тон задала спадарыня Галіна Барташэвіч — фальклярыст, кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік АН Беларусі, якая вяла пасяджэнне секцыі. У сваім дакладзе Галіна Аляксандраўна падала два аспекты дзейнасці фальклярыстаў: навукова-даследчы і практычна-прыкладны. Ды ўвагу засяродзіла на другім. Перад даследчыкамі паўстала праблема ўзнаўлення старажытных пластоў фальклору. Менавіта не сапсаваныя аўтэнтычныя творы народнай паэзіі дапамогуць не толькі выхаваць эстэтычны густ ды павагу да духоўнай культуры і гісторыі нашага народа, але і выхоўваць грамадзяніна Рэспублікі Беларусь. Паўстае і праблема падрыхтоўкі кадраў: усе імкнуцца выкарыстоўваць народную мудрасць у сваёй практычнай дзейнасці. Але для гэтага трэба ведаць фальклор. Шмат дзе спрабуюць навучыць гэтаму выхаваўцаў, выкарыстоўваючы інстытуты ўдасканалення настаўнікаў. На думку Галіны Аляксандраўны, неабходна даваць грунтоўныя веды студэнтам. Яна пашкадавала, што на пленарным пасяджэнні прадстаўнікі ні Міністэрства адукацыі, ні Міністэрства культуры не паставілі такую важную праблему. Да таго ж навукоўцам-этнографам і педагогам неабходна ведаць патрабаванні, якія падрыхтавала само жыццё, праблема беларусізацыі школы. Спадарыня Барташэвіч не пагадзілася з ацэнкай стану этнаграфічных даследаванняў і прапаганды народнай творчасці, што выказана ў дакладзе на пленарным пасяджэнні. Яна лічыць, што ў сродках масавай інфармацыі фальклор падаецца не належным чынам, што няма зацікаўленасці, каб людзі ўбачылі сапраўды лепшыя ўзоры народнай творчасці. На яе думку, выкананне адных і тых жа песень, фальклорных абрадаў не заўсёды спрыяе росту культуры, выхаванню нацыянальнай свядомасці. Ёсць пагроза ўзнікнення штампаў, выпрацоўваецца нейкі сярэдні ўзровень фальклору. Радыё і тэлеперадачы робяцца, каб пацешыць, а трэба, каб яны былі пазнавальнымі.

Спадар Адам Грымаць, загадчык кафедры педагогікі Менскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута сказаў пра гэта яшчэ больш рэзка: «На сённяшні дзень адраджэнне беларускай культуры зводзіцца амаль што да культу лапцяў, як быццам не было ў беларусаў дасягненняў у літаратуры, у мастацтве». А таму калектыў гэтай кафедры працуе над праблемай фарміравання нацыянальнай годнасці, нацыянальнага асяроддзя. Яны зразумелі, што без бацькоў гэтай праблемы не вырашыць. І спадар Грымаць распавёў пра Дулебскую школу, а дакладней, пра комплекс «Дзіцячы дом-школа — дзіцячы сад», які знаходзіцца ў вёсцы Дулебы Бярэзінскага раёна. Там дзеці разам з бацькамі, дзядамі ў хоры спяваюць, разам на вечарынах бавяцца. Там госці могуць убачыць беларускую нацыянальную школу. Але не ў тым яе адметнасць, што ў харыстаў прыгожая нацыянальная вопратка ды школа афармлена ў нацыянальным стылі, а ў тым, што вёска адчула сваю нацыянальную годнасць. Таму і школа стала сапраўды беларускай.

За дапамогай да аднавяскоўцаў звярнулася і Галіна Жуковіч, мастацкі кіраўнік дзіцячага калектыву з вёскі Хрыса Бярозаўскага раёна. Старэйшыя жанчыны далі дзецям прыгожыя строі, а музычныя інструменты зрабіў ім дзядуля Шаўчук.

ЦЯЖЭЙ ТЫМ, хто працуе ў вялікім горадзе, але спадарыня Марыя Жабінская, загадчык аддзела Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей (яна таксама працуе і ў школе), не чакала, пакуль купяць строі і музычныя інструменты. Дзеці самі зрабілі іх: выразалі з дрэва, з рогу, ладзілі з саломкі, ляпілі з гліны. Яна гаварыла пра вялікія магчымасці выкарыстання народных рамёстваў у эстэтычным выхаванні дзяцей. Да таго ж, майструючы, дзеці развіваюць мастацкі густ, развіваюць рукі, што спатрэбіцца і будучым рабочым, і музыкантам, і хірургам, а таксама вучацца шанаваць матэрыяльную і духоўную культуру свайго народа.

Сапраўдных аматараў фальклору становіцца больш, яны рупяцца пра захаванне народнай культуры і далучаюць да гэтай справы дзяцей. Спадар Собаль, кіраўнік славутага Груздаўскага аркестра цымбалістаў, дамогся, каб адкрыць клас унікальных дытанічных цымбалаў у Пастаўскай музычнай школе, бо ў самім Груздаве ўжо амаль няма каго вучыць. Не загіне гэты пласт народнай музычнай культуры.

Краязнаўца з Свіслачы Аляксандр Галубінскі расказаў прысутным, што супрацоўнікі Свіслацкага музея па дамове з раённым аддзелам адукацыі распрацавалі дзевяць тэм па гісторыі роднага краю і да кожнай тэмы падабралі фальклорныя творы мясцовага паходжання. І дзеці вельмі добра ўспрынялі такі матэрыял. Ён жа прапанаваў стварыць у школах, установах культуры зборы, банкі народных твораў і выкарыстоўваць іх на выхаваўчых гадзінах.

**Ірына КРЭНЬ,**
**Здзіслаў СІЦЬКО.**

◆◆◆

**Рэдакцыя вырашыла не абмяжоўвацца гэтым паведамленнем пра важную і цікавую падзею. Мяркуем таксама пазнаёміць чытачоў з некаторымі іншымі дакладамі, што прагучалі на канферэнцыі.**

*Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

*У. Емяльянчык, П. Лойка, Г. Сагановіч*

## БЕЛАРУСЬ: ЧАСЫ ВАЕННАГА ЛІХАЛЕЦЦЯ, АНАРХІЯ У КРАІНЕ, СТРАТА ДЗЯРЖАЎНАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

***(другая палавіна XVII — XVIII ст.)***

**Працяг. Пачатак у №№ 24, 25.**

**19 ліпеня спроба захапіць Вільню заканчваецца для царскіх войск няўдачай. Але з таго часу яны ўжо не пакідаюць яе ваколіц. 12 жніўня расійскія войскі займаюць Вільню. У верасні на тэрыторыю паўднёвых паветаў Беларусі ўступаюць атрады Суворава. Спачатку пад в. Крупчыцы каля Кобрына і канчаткова пад Берасцем яны разбілі «корпус» К. Серакоўскага. У бітве пад Крупчыцамі супраць адборных расійскіх войск змагаліся больш за 2 тысячы беларускіх сялян-касінераў. Паўстанцы страцілі каля трох тысяч чалавек забітымі і параненымі. Многія з іх спрабавалі выратавацца за сценамі крупчыцкага манастыра, але былі пасечаныя казакамі.**

**Каля Гародні паўстанне пратрымалася даўжэй. Сюды перабіраецца і «Цэнтральная Дэпутацыя Вялікага княства Літоўскага» — новы орган па кіраўніцтву паўстаннем, які ў пачатку чэрвеня прыйшоў на змену «Літоўскай Радзе». Сюды ж на адзін дзень, 30 верасня, паспявае прыехаць Т. Касцюшка. Але і Гародню 1 кастрычніка паўстанцы пакінулі. Рэшткі паўстанцкага войска Вялікага княства праз Саколку і Беласток адступілі да Варшавы. Там пры геракічнай абароне варшаўскага прадмесця Прагі загінуў Я. Ясінскі.**

**Паўстанне 1794 г. на Беларусі пратрымалася пяць месяцаў. Але яно змагло адцягнуць на сябе значныя сілы расійскіх войскаў. Гэта не дазволіла адразу кінуць іх супраць атрадаў Т. Касцюшкі. Адной з прычын паражэння паўстання на тэрыторыі Беларусі з'яўлялася адсутнасць адзінага камандавання, узаемадзеяння ў паўстанцкім войску, няздольнасць вайсковага кіраўніцтва. Але галоўнай прычынай бачыцца палавінчатасць аб'яўленых рэформаў, пастаянная аглядка на шляхецтва, якое не хацела дапускаць рэвалюцыйнага выступлення сялянства і мяшчанства. Так, выдадзены 7 мая 1794 г. Т. Касцюшкам знакаміты «Паланецкі універсал» стварыў падставу для аблягчэння становішча сялянства ў Рэчы Паспалітай. Гэтым універсалам усім прыгонным сялянам надавалася ўласная свабода, прызнавалася спадчыннае права карыстання зямлёй, якую яны абраблялі, значна памяншаліся павіннасці. Але, каб канчаткова не адштурхнуць ад паўстання шляхту, Т. Касцюшка вымушаны быў улічваць і яе інтарэсы. Прыгон не быў скасаваны. Гэта не дазволіла перарасці паўстанню ва ўсенародны рух, а таксама спарадзіла раскол у лагеры паўстанцаў. Такія акалічнасці спрыялі рускаму войску на чале з Суворавым і Ферзенам атрымаць шэраг перамог і задушыць паўстанне.**

**Цяпер пытанне аб захаванні Рэчы Паспалітай не стаяла, і апошні яе падзел адбыўся ў кастрычніку 1795 г.: уся тэрыторыя Беларусі была далучана да Расійскай імперыі.**

***440 год рэфармацыі ў Беларусі (1553—1993)***

# Магутны рыцар нашай незалежнасці



У шматвяковай гісторыі Бацькаўшчыны ёсць людзі і падзеі, чыя дзейнасць і значэнне намі дагэтуль як мае быць неасэнсаваныя, нявывучаныя, а таму застаюцца амаль невядомымі для сучаснага беларускага грамадства.

440-я гадавіна Рэфармацыі ў Беларусі дае нагоду звярнуцца да памяці найвыдатнейшага дзяржаўнага, палітычнага і хрысціянскага дзеяча Беларусі князя Мікалая Радзівіла Чорнага. Ён нарадзіўся 4 лютага 1515 года ў Нясвіжы ў сям'і трокскага кашталяна Яна Радзівіла і Ганны з роду Кішкаў. Рана страціўшы бацьку, князь Мікалай паводле адмысловага рашэння манарха Жыгімонта Старога ў 1529 г. быў узяты для выхавання і адукацыі на каралеўскі двор у Кракаў. Пасябраваў з маленства з каралевічам Жыгімонтам Аўгустам. Адразу пасля дасягнення паўналецця князь Мікалай разам з братам вяртаецца на бацькаўшчыну і бярэ чынны ўдзел у дзяржаўных справах: выстаўляе для земскай службы 160 коней са сваіх маёнткаў і ваюе пад Старадубам з Масковіяй у войску дзядзькі Юрыя Радзівіла.

Наданне Радзівілу годнасці маршалка земскага і ўвядзенне ў склад панскай рады суправаджалася рознымі дыпламатычнымі даручэннямі. Так, у 1546 г. князь Мікалай вёў перамовы ў Кракаве наконт унармавання пагранічных пытанняў паміж Вялікім княствам Літоўскім і Каралеўствам Польскім, а таксама разглядаў праект валютных узаемадачыненняў паміж дзяржавамі. У 1547 годзе Жыгімонт Аўгуст прызначае Радзівіла паслом да караля Святой Рымскай імперыі Фердынанда I з даручэннем дамовіцца наконт вяртання пасагу памерлай Альжбэты Габсбург. Дыпламатычныя перамовы вяліся ў Вене і Аўгсбургу, дзе адначасова Мікалай Радзівіл паспяхова дамогся ад Карла V надання тытулу князёў Рымскай імперыі для сябе і свайго роду «на Алыцы і Нясвіжы», «на Біржах і Дубінках». Палітычнай кар'еры Радзівілаў нечакана паспрыяла закаханасць вялікага князя і караля Жыгімонта Аўгуста да стрыечнай сястры Мікалая Радзівіла Чорнага князёўны Барбары. Справа ішла да шлюбу і каранавання Барбары. Як заўсёды, не абышлося без зайздрослівых з боку шляхты як у Вялікай Літве, так і ў Кароне. Падчас падарожжа Радзівіла Рудога разам з сястрой да замка ў Радоме рэзідэнцыі караля, палітычныя праціўнікі Жыгімонтавага шлюбу пагражалі князю і Барбары жорсткай расправай (утапіць у Вісле). Аднак запалохаць нікога не ўдалося, і 7 снежня 1550 г. Барбара Радзівіл была каранавана на катэдры ў Вавелі. На вялікі жаль, шлюб трываў нядоўга. Пры таямнічых абставінах (вельмі падобных на палітычнае забойства) каралева хутка памірае, а яе ўрачыстае пахаванне адбываецца ў віленскай катэдры. Адносіны да Жыгімонта ў Радзівілаў не змяніліся, што было выказана Рудым: «Ведаем ад пана караля нашага, што ані яго ласка да нас не памерла разам з каралевай ані наша вера да яго таксама».

Радзівіл Чорны імкнуўся ўсталяваць такія ўзаемаадносіны паміж Вялікім княствам і Польшчай, каб можна было заключыць пагадненне аб вайсковай дапамозе супраць знешняй агрэсіі, але адначасова захаваць непарушнасць тэрыторыі княства і яго палітычную асобнасць. 25.02.1549 г. князь Мікалай атрымлівае прывілей на староства Берасцейскае, дзе неўзабаве распачынае грунтоўную гаспадарчую дзейнасць, узвядзенне замкавых будынкаў, а таксама эканамічныя пераўтварэнні, што прывядуць да рэзкага павышэння рэнтабельнасці і росту прыбыткаў. Кароль Жыгімонт за гэта перадасць староства ў пажыццёвае валоданне князю ды адначасова павысіць падатак у дзяржаўны скарб з 1000 да 1500 коп грошаў літоўскіх.

Палітычным поспехам Радзівіла Чорнага было таксама атрыманне ім у 1550 годзе ўрада (пасады) канцлера літоўскага, а ў 1551 г. прывілея на годнасць віленскага ваяводы. Князь Мікалай становіцца практычна галоўным намеснікам караля ў Вялікім княстве. Радзівіл атрымлівае прывілей на дзяржаўны велікакняжацкі статус архіва (літоўскую метрыку), які пераходзіцца ў Нясвіжы.

У 1552—53 гг. князь Мікалай Радзівіл Чорны займаецца палітычнай дзейнасцю на Сойме ў Вільні, суправаджае караля ў дыпламатычнай сустрэчы з Ізабэлай Ягелонкай — каралевай венгерскай, наведвае Гданьск, Кракаў, дзе прызначаецца кіраўніком дыпламатычнай місіі да Габсбургаў: неабходна было рашуча перашкодзіць магчымаму саюзу паміж Габсбургамі і Масквой, нейтралізаваць зусім рэальную пагрозу на ўсходніх рубяжах нашай дзяржавы. (Габсбургі заігрывалі з Іванам Жахлівым, падтрымліваючы яго дамаганні каралеўскай кароны ў Рыме).

Уласныя сямейныя справы Мікалай Радзівіл Чорны пачаў наладжваць ва ўзросце 33 гадоў, узяўшы шлюб з Альжбэтай Шыдлавецкай, з якой сумесна пражыў пятнаццаць гадоў і меў дзевяцёра дзяцей. Гэты шлюб паспрыяў умацненню палітычных сувязей Радзівіла праз сяброўства са шваграм — гетманам Тарноўскім, памочнікам князя ў многіх справах.

Мала каму вядома, што князь Мікалай, разам з каралеўскім пісарам і сваім сябрам Астафеем Валовічам, а таксама Пятром Хвальчэўскім кіраваў камісіяй па правядзенні гаспадарчай рэформы і выпрацоўцы дакумента, выдадзенага Жыгімонтам Аўгустам у 1557 г. пад назвай «Устава на валокі». Рэформа ўсталявала новы рацыянальны парадак землекарыстання, заклала асновы разумнага падыходу да праблем экалагічных і стымулявала гаспадарчы росквіт у дзяржаўных і прыватнаўласніцкіх землях. Праўда, і тут сярод шляхты знаходзіліся «пакрыўджаныя». Гэта тыя, хто ўтойваў няўлічаныя валокі ад выплаты падаткаў у дзяржаўны скарб.

***Бяззбройнае далучэнне да Вялікага княства Літоўскага Куроніі і Лівоніі (Інфлянтаў)***

Найвялікшым дыпламатычным дасягненнем князя Мікалая Радзівіла Чорнага была ягоная дзейнасць дзеля інкарпарацыі Куроніі і Лівоніі да нашага гаспадарства. Ад 1556 года пасля нарады ў Вільні з удзелам прускага князя Альбрэхта і караля Жыгімонта князь Мікалай пачынае заглыбляцца ў справы інфлянцкія. Палітычная сітуацыя на землях Лівонскага ордэна выглядала такім чынам, што яны маглі стацца лёгкай здабычай агрэсіўных дамаганняў маскоўскага цара Івана альбо Даніі і Швецыі. Гэта несла б вялікую небяспеку для суверэнітэту Вялікага княства Літоўскага. Князь Мікалай робіць захады па заключэнні саюзу інфлянцка-вялікалітоўскага, скіраванага для адпору Масковіі. Гэтае мэты Радзівіл дасягае і 14.09.1557 г. падпісвае з магістрам мечавых рыцараў Вільгельмам Фюрстэнбергам дыпламатычнае пагадненне. У адказ Іван Жахлівы ўрываецца ў Інфлянты і ў 1558 г. захоплівае Нарву. Адначасова ён спрабуе падмануць Радзівіла, прапануючы заключыць пагадненне супраць татарскіх нападаў, каб адцягнуць ягоную пільную ўвагу ад Інфлянтаў. Князь Мікалай, адразу разгадаўшы дыпламатычны манеўр місіі В. Алферына ў Вільні, адхіляе прапанову маскоўскага двара. Тым часам лівонскія пасланнікі настойліва звяртаюцца з просьбамі аб дапамозе. Каад'ютар лівонскага магістра Готард Кетлер знаходзіць паразуменне з нашым вялікім канцлерам і 31 жніўня 1559 г. падпісвае віленскае пагадненне аб пераходзе Лівонскай дзяржавы пад зверхніцтва Вялікага княства Літоўскага. Жыгімонт Аўгуст адпаведна абавязваецца ўзяць пад сваю ўладу ўсе замкі на паўднёвым усходзе Інфлянтаў дзеля арганізацыі іх абароны, а таксама захаваць адміністрацыйную і юрыдычную непарушнасць далучанай тэрыторыі. Князь Мікалай бярэ ўдзел у пасяджэннях віленскага Сойму, дзе вырашана ўвесці новы падатак (сярэбшчыну) на два гады дзеля падтрымання абароны Інфлянтаў, а пасля атрымання ад караля паўнамоцтваў займаецца з магістрам Кетлерам і рыжскім арцыбіскупам Вільгельмам справамі размяшчэння беларускіх гарнізонаў у замках на інфлянцка-маскоўскай мяжы. Аднак на землях былога гаспадарства мечавых рыцараў, якое хутка распадалася, узрастала дыпламатычная і нават вайсковая прысутнасць Даніі, Швецыі ды асабліва Масковіі.

Князь Мікалай, знаходзячыся ў сваім вайсковым лагеры пад Рыгай, праводзіць інтэнсіўныя перамовы з прадстаўнікамі інфлянцкага грамадства, прапануючы неадкладную секулярызацыю ордэна і рэарганізацыю Інфлянтаў на ўзор Прускага герцагства. Готард Кетлер і арцыбіскуп Вільгельм супольна падтрымалі праект князя Радзівіла. 28 лістапада 1561 г. віленскі Сойм прыняў урачысты акт прысягі ад магістра Кетлера, арцыбіскупа Вільгельма і пасольства Рыгі на падданства Вялікаму княству Літоўскаму. Магістр Готард Кетлер, які супрацоўнічаў з Радзівілам у падрыхтоўцы да секулярызацыі, атрымаў новую годнасць князя Курляндыі і Земгаліі. Кароль і вялікі князь Жыгімонт Аўгуст прызначае князя Мікалая Радзівіла Чорнага галоўным адміністратарам інфлянцкім. З уласных сродкаў князь Мікалай забяспечвае ўтрыманне войскаў, размешчаных у Інфлянтах, бо дзяржаўны скарб не меў на той час вялікіх фінансаў. 5 сакавіка 1562 г. Радзівіл завяршае справу секулярызацыі ордэна ўрачыстым прыняццем атрыбутаў магістарскай улады з рук Готарда Кетлера ў рыжскім замку: залатога крыжа і залатой пячаткі, а таксама прывілея Ордэна мечавых рыцараў і яго дзяржаўнага архіва. Ад імя караля князь Радзівіл прыняў прысягу на адданасць ад прадстаўнікоў лівонскіх уплывовых станаў і заверыў іх у тым, што вялікалітоўскае гаспадарства будзе забяспечваць абарону новай правінцыі ад ворагаў. Заклапочанасць Радзівіла ў знешнепалітычных справах прымусіла яго да захадаў, скіраваных на заключэнне дагавору з Даніяй супраць магчымага альянсу Масквы і Швецыі. Гэта было слушна тым больш, што пасля смерці арцыбіскупа Вільгельма ягоны каад'ютар, мекленбургскі князь Хрыстафор, падазраваўся ў сувязях са шведамі.

Бяззбройнае далучэнне вялікіх памежных земляў і насельніцтва Куроніі і Лівоніі да ВКЛ было велізарным дыпламатычным поспехам нашага канцлера.

***Князь Мікалай Радзівіл Чорны — галоўны пратэктар Рэфармацыі ў Вялікім княстве Літоўскім***

У апошнія гады свайго жыцця, калі пагоршыліся адносіны паміж каралём і Радзівілам на глебе сур'ёзных разыходжанняў у пытанні прыняцця міждзяржаўнай уніі (да канца жыцця Радзівіл застаўся яе паслядоўным праціўнікам), князь Мікалай скіроўвае найбольшую ўвагу на справы ўсталявання рэфармаванай царквы. Яшчэ ў 1553 годзе ён заснаваў у Берасці Літоўскім першы евангелічны збор. Ад гэтага часу князь Мікалай становіцца найгалоўнейшым пратэктарам Рэфармацыі ў Беларусі. Разумеючы, магчыма, больш за іншых палітычныя і духоўныя пагрозы з Масквы і Кракава, якія выкарыстоўвалі рэлігійнае становішча ў нашай бацькаўшчыне ў экспансіяніцкіх мэтах, Радзівіл Чорны ставіць задачу паступовага стварэння рэфармаванай хрысціянскай царквы, каб яна мела нацыянальны характар, незалежны ад суседзяў. Аналагічныя падзеі ў рэчышчы Рэфармацыі тады адбываліся па ўсёй Еўропе, дзе таксама з вялікім працідзеяннем, але закладваліся нацыянальныя евангелічныя цэрквы. Ідэі Рэфармацыі ў XVI стагоддзі захапілі амаль цалкам кіруючую эліту беларускага грамадства. Дзякуючы новай еўрапейскай духоўнасці, у Беларусі распачаліся датуль нечуваныя

*Заканчэнне на с. 6.*

# Вучымся!

## ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце словы, захоўваючы асаблівасці вымаўлення часціцы **не**.

| | |
|---|---|
| не ве́рыў | не паве́рыў |
| не ве́даў | не наве́даў |
| не ма́рыў | не нама́рыў |
| не ме́раў | не наме́раў |
| не гля́нуў | не загляну́ў |

2. Прачытайце прыказкі і прымаўкі, звярніце ўвагу на вымаўленне часціцы **не** і прыназоўніка **без**.

Слухаць добрай рады *не шкодзіць. Без крылаў не паляціш. Не лезь*, куды цябе *не клічуць*. Вочы *не бачаць*, то і душа *не баліць*. Увага *не блага*. Чалавек сабе *не вораг. Не ўсё* салодкае хваляць. *Не ўсё* адразу. *Не месца* галавы шукае, а галава месца. Няма шчасця *без волі. Не ўсякаму* слову вер. *Не кліч* воўка з лесу, бо ліха *не спіць*. Агню ў шапцы *не носяць*. Агонь агню *не гасіць*. Ягад *без кветак не бывае*.

3. Прачытайце верш Алеся Гаруна, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных і іх спалучэнняў.

### Ты, мой брат...

Ты, мой брат, каго зваць беларусам,
Роднай мовы сваёй не цурайся;
Як не зрокся яе пад прымусам,
Так і вольным цяпер не зракайся.

Ад дзядоў і ад прадзедаў, браце,
Гэты скарб наш адзін захаваўся,—
У сялянскай аграбленай хаце
Толькі ён незабраны астаўся.

Дык шануй, беларус, сваю мову, —
Гэта скарб нам на вечныя годы.
За пашану радзімаму слову
Ушануюць нас брацці-народы.

## УРОК ДВАЦЦАЦЬ ТРЭЦІ

### ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

1. Прачытайце выказванне Яна Скрыгана, растлумачце асаблівасці вымаўлення выдзеленых слоў.

Можна *грэбаваць* чалавекам. А мову *нельга* грэбаваць, бо *гэта* народ... У поравень са словам *Радзіма* заўсёды мова. *Без* мовы *не* можа быць народа. Калі памірае мова, памірае і народ, *сыходзіць* з *гістарычнай* сцэны. Добра *ведаючы* гэта, ад бязроднага *нігілізму перасцерагаў* Францішак Багушэвіч: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб *не* ўмёрлі!»

А ірландскі *вучоны* Дэві сказаў так: «Кожны народ павінен *аберагаць* сваю мову больш, *чым граніцы*, бо мова — гэта *галоўная* яго абарона, куды больш моцная, чымся *ўсе яго* цытадэлі».

2. Прачытайце тэкст паводле аўтабіяграфіі Алега Лойкі і перакажыце яго ад трэцяй асобы. Растлумачце правапіс выдзеленых слоў.

*Дзед* мой *Цімох яшчэ* не *ўсведамляў* сябе беларусам, хоць самую прыгожую беларускую мову я *чуў* з ягоных вуснаў. Бацька ж мой ужо і *вершыкі спрабаваў* пісаць, *будучы* актыўным арганізатарам гурткоў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады былой Заходняй Беларусі. Ото тут я *ўжо* відавочнай *кропляй у бацьку* свайго, як і ў маці сваю, хоць беларускай мовы яна не ведала, калі *мяне нарадзіла*. Сама нарадзілася ў *Сярэдняй* Азіі, каля Ферганы, і да шаснаццаці гадоў *жыла* і *вучылася* ў Сярэдняй Азіі. Я, малы, умеў лічыць да дзесяці па-ўзбекску, як тое *ўмела* мая мама. Да шасці гадоў *ведаў* рускую грамату. У польскую школу пайшоў, зусім не ведаючы польскай мовы, а толькі маміну і вясковую. Але я сапраўды ж і з роднай мамы сваёй, бо і з тых жа больш чым чатырохсот песень, якія яна мне перад смерцю перапісала — песні рускія, польскія, беларускія, украінскія. А я ж з вуснаў маці чуў іх, калі *яшчэ* ні *чытаць*, ні *пісаць* не ўмеў. *Дзякуй* за песні, дзякуй табе, мама...

3. Прачытайце ўрыўкі з артыкула Яна Скрыгана і выканайце заданні.

ВАРЫЯНТ I

Мы пішам прыблізна так: «Была вольная часіна, і я **вырашыў** схадзіць у тэатр», «Так расхвалілі гэтую кнігу, што я **вырашыў** прачытаць яе», «Я **вырашыў** купіць сабе новае паліто», «Цяжка быць непісьменным, і я **вырашыў** вучыцца», «Думаў я, думаў і **вырашыў** заняцца пчалаводствам», «Доўга не было звестак ад брата, і я **вырашыў** наведаць яго».

**Заданне.** Каб перадаць каларыт мовы, тыя адценні, якія кожнаму выпадку надаюць свой характар, замяніце слова **вырашыць** наступнымі словамі: *надумаў, захацеў, сабраўся, насмеліўся, намысліў, намерыўся.*

ВАРЫЯНТ II

Прачытайце сказы і скажыце, у якім з іх дзеяслоў **імкнуўся** ўжыты правільна, памятаючы пры гэтым, што ён выражае *парыў, палёт, нястрымнае жаданне.*

Я ведаў, што без навукі жыць цяжка, і я **імкнуўся** вучыцца. Мой брат заўсёды **імкнуўся** да навукі. Вельмі ён **імкнуўся** папасці ў горад. Увесь час ён **імкнуўся** ўзбіцца на гаспадарку. Усім сэрцам я **імкнуўся** да яе.

**Заданне.** Замяніце слова **імкнуўся** наступнымі адпаведнікамі: *стараўся, цягнуўся, хацеў, сіліўся.*

## Тлумачэнне новай тэмы: Лады дзеяслова

### АБВЕСНЫ ЛАД

Абвесны лад (изъявительное наклонение) абазначае рэальнае дзеянне — дзеянне, якое сапраўды адбывалася *(развязваў, рашаў)*, адбылося *(развязаў, рашыў)*, адбываецца *(развязваю, рашаю)*, будзе адбывацца *(буду развязваць, буду рашаць)* ці адбудзецца *(развяжу, рашу)*.

### УМОЎНЫ ЛАД

Умоўны лад (сослагательное наклонение) абазначае дзеянне, магчымае (пры пэўнай умове) або пажаданае. Ён утвараецца ад дзеясловаў прошлага часу пры дапамозе часціцы **бы(б)**. Дзеясловы ўмоўнага ладу, як і дзеясловы прошлага часу, змяняюцца па ліках, а ў адзіночным ліку — па родах.

| **Адзіночны лік** | ***Множны лік*** |
|---|---|
| Мужчынскі род: *пісаў бы, быў бы* | |
| Жаночы род: *пісала б, была б* | *пісалі б, былі б* |
| Ніякі род: *пісала б, было б* | |

Часціца **бы(б)** пішацца з дзеясловамі асобна. Пасля зычных пішацца **бы** *(чытаў бы, прынёс бы)*, а пасля галосных — **б** *(чыталі б, прынесла б)*. Часціца **бы(б)** можа стаяць пасля дзеяслова і перад ім, можа аддзяляцца ад дзеяслова іншымі словамі: *Калі б ведаў, дзе ўпадзеш, то абышоў бы тое месца. Калі б на хмель не мароз, ён бы і тын перарос.*

### ЗАГАДНЫ ЛАД

Загадны лад (повелительное наклонение) выражае пабуджэнне да дзеяння, загад, заклік, просьбу або параду. Дзеясловы загаднага ладу ўжываюцца пераважна ў 2-й і 3-й асобах адзіночнага ліку.

Загадны лад утвараецца ад асновы дзеясловаў цяперашняга або будучага простага часу пры дапамозе суфіксаў **-і, -ы, -й**: *вядз-**і**, няс-**і**, піш-**ы**, дума-**й**, напіш-**ы*** або без суфіксаў: *насып, стань.*

Дзеясловы 2-й асобы множнага ліку загаднага ладу ўтвараюцца ад 2-й асобы адзіночнага ліку пры дапамозе канчатка **-це**: *вядзі-**це**, нясі-**це**, пішы-**це**, напішы-**це**, насып-**це**, стань-**це**, дай-**це***.

Дзеясловы 3-й асобы загаднага ладу ўтвараюцца ад 3-й асобы абвеснага ладу пры дапамозе часціцы **няхай(хай)**: ***няхай*** *вядзе*, ***хай*** *піша*, ***няхай*** *стануць*, ***хай*** *дадуць*.

Дзеясловы загаднага ладу маюць яшчэ форму 1-й асобы множнага ліку, якая супадае з формай 1-й асобы множнага ліку цяперашняга, прошлага і будучага простага часу: *ідзём, пайшлі, пойдзем, успомнім, пабяжым*, а таксама ўтвараюцца ад 1-й асобы будучага часу ці інфінітыва ў спалучэнні з часціцай **давай (давайце)**: ***давай*** *зробім*, ***давайце*** *запішам*, ***давайце*** *працаваць*, ***давайце*** *будзем трэніравацца.*

Зваротныя дзеясловы загаднага ладу маюць суфікс **-ся**: *спынімся, трымайся.*

### ЗАМАЦАВАННЕ

1. Прачытайце выразна верш А. Бачылы, назавіце дзеясловы ўмоўнага ладу і вызначце месца часціцы **бы(б)** адносна дзеясловаў.

Мусіць, песень не стала б, музыкі збяднелі б,
Завушніцамі б росы не ўпрыгожылі траў,
Калі б нам па вясне жаўрукі не звінелі,
Калі б вецер на скрыпках сасён не іграў.

Калі б мы не збіраліся разам на святы,
Не дзялілі б хлеб-соль і бяду папалам,
Калі б мы не былі тым багаццем багаты,
Што бацькі здабылі і пакінулі нам.

2. Прачытайце радкі верша П. Панчанкі «Герой» і скажыце, якія сітуацыі адлюстраваны ў іх, якімі вы ўяўляеце лірычных герояў. Назавіце дзеясловы абвеснага ладу, растлумачце іх правапіс. Утварыце ад іх формы загаднага ладу.

Злосна сказаў: «Уставай, пяхота!
Мы не на пляжы, а на вайне».
І лёг на змяіныя скруткі дроту.
І дзвесце салдацкіх запыленых ботаў
Прайшлі па яго спіне.

Не ён, а другія ішлі ў атаку,
Гранаты кідалі ў бліндажы,
Калолі фрыцаў, палілі танкі
І сцяг перамогі ўзнімалі ранкам
На заваёваным рубяжы.

3. Перакладзіце тэксты на беларускую мову.

ВАРЫЯНТ I

По команде «К торжественному маршу» выходят из строя и становятся: заместители командира роты — в двух шагах за командиром роты, командиры взводов — в двух шагах впереди своих взводов, барабанщик — в двух шагах за заместителями командира роты, старший техник — в двух шагах впереди группы управления; линейные выбегают или выходят учащённым строевым шагом на линию прохождения роты, останавливаются на дистанции 10—15 м (15—20 шагов) один от другого, самостоятельно поворачиваются налево.

ВАРЫЯНТ II

По команде «Становись!» следует быстро стать в строй и стоять прямо, без напряжения, каблуки поставить вместе, а носки развернуть по линии фронта на ширину ступни; ноги в коленях выпрямить, но не напрягать; грудь приподнять, а всё тело несколько подать вперёд; живот подобрать; плечи развернуть; руки опустить так, чтобы кисти, обращённые внутрь, были сбоку и посредине бёдер, а пальцы полусогнуты и касались бедра; голову держать высоко и прямо, не выставляя подбородка; смотреть прямо перед собой; быть готовым к немедленному действию.

## Узбагачэнне слоўнікавага запасу і развіццё мовы

### ВАЕННАЕ МАЙСТЭРСТВА — ВОЕННОЕ ИСКУССТВО

Абарона, -ны, *ж* — оборона
абход, -ду, *м* — обход
адступленне, -ння, *н* — отступление
адход, -ду, *м* — отход
акружэнне, -ння, *н* — окружение
актыўная абарона — активная оборона
аператыўнае мастацтва — оперативное искусство
аперацыя ваенная — операция военная
аперацыя стратэгічная — операция стратегическая
апорны пункт — опорный пункт
асаднае становішча — осадное положение
атака, -кі, *ж* — атака
ахоп, -пу, *м* — охват
баявая ахова — боевое охранение
баявы парадак — боевой порядок
бітва, -вы, *ж* — бой, битва
вартавая застава — сторожевая застава
дыверсія, -сіі, *ж* — диверсия
дэманстрацыя, -цыі, *ж* — демонстрация
дэсант, -ту, *м* — десант,
засада, -ды, *ж* — засада
кантратака, -кі, *ж* — контратака
кантрнаступленне, -ння, *н* — контрнаступление
контрудар, -ру, *м* — контрудар
лінейная тактыка — линейная тактика
манеўр, -ру, *м* — маневр
марш, -шу, *м* — марш
наступленне, -ння, *ж* — наступление
пазіцыя, -цыі, *ж* — позиция
патруль, -ля, *м* — патруль
патруляванне, -ння, *н* — патрулирование
паласа абароны — полоса обороны
плацдарм, -ма, *м* — плацдарм
пошук, -ку, *м* — поиск
прарыў, -ыву, *м* — прорыв
праследаванне, -ння, *н* — преследование
радыёразведка, -кі, *ж* — радиоразведка
разведка, -кі, *ж* — разведка
разведка боем — разведка боем
рэкагнасцыроўка, -кі, *ж* — рекогносцировка
стратэгічны напрамак — стратегическое направление
стратэгія ваенная — стратегия военная
сустрэчны бой — встречный бой
тактыка ваенная — тактика военная
фарсіраваны марш — форсированный марш
флангавы ўдар — фланговый удар
штурм, -му, *м* — штурм
эшаланіраванне, -ння, *н* — эшелонирование

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

*Працяг. Пачатак у №№ 24, 25.*

## Што такое Крэўская вунія?

Крэўская вунія — гэта пагадненне паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польскім каралеўствам, ажыццёўленае ў 1385 годзе. Паводле ўмоваў Крэўскай вуніі, вельмі выгадных для Беларускага гаспадарства, Польшча ўступала з ім у хаўрус, а яе гаспадаром абвяшчаўся наш вялікі князь.

Пайсці на гэта палякаў прымусілі цяжкія абставіны. Найперш — экспансія з боку немцаў, якія няспынна каланізавалі польскія тэрыторыі. Да сярэдзіны XIV стагоддзя Польшча не толькі страціла Сілезію, Памор'е ды іншыя землі, была адрэзана ад мора, але і стаяла перад небяспекай поўнага анямечання. Ды і з боку моцнага Беларускага гаспадарства над Польшчай заўсёды вісела пагроза, пацвярджэнне чаму — пераможныя ваенныя паходы Альгерда ў 1376 годзе і Ягайлы (Якава) у 1383—1384 гадах.

Каб не страціць сваёй дзяржаўнасці і не загінуць цалкам, палякі і вымушаны былі пайсці на хаўрус з Вялікім Княствам. 14 жніўня 1385 года паслы з Польшчы прыехалі ў Крэва (цяпер мястэчка ў Смаргонскім раёне) — рэзідэнцыю нашага вялікага князя — і папрасілі яго стаць іхным гаспадаром. Ягайла пагадзіўся. Ён ажаніўся з Ядзьвігай і пераехаў у Польшчу, прызначыўшы сваім намеснікам у Вялікім Княстве Скіргайлу (Івана).

Варта зазначыць, што пазней, у XV—XVII стагоддзях, на падставе сфабрыкаванага палякамі дакумента, што выстаўляўся імі як арыгінал Крэўскага пагаднення, у гістарычнай літаратуры (напачатку, вядома, польскай) запанавала процілеглая думка — пра нібыта ўваходжанне Вялікага Княства ў склад Польшчы.

Сфальсіфікаваны тэкст абавязацельства Ягайлы нагадвае акт безагаворачнай капітуляцыі. Недарэчнасць яго відавочная: за гонар ажаніцца з Ядзьвігай і насіць тытул караля Польшчы Ягайла нібыта абяцаў аддаць на патрэбы палякаў дзяржаўны скарб Вялікага Княства, заплаціць 200 тысяч фларынаў Вільгельму Аўстрыйскаму за адмову ад шлюбу з Ядзьвігай (гэта сума, за якую тады можна было купіць цэлую дзяржаву!) і ўвогуле ліквідаваць Вялікае Княства, далучыўшы яго да Польшчы, і г. д.

Меркаванне пра тое, што вядомы акт Крэўскага пагаднення сфальсіфікаваны, пацвярджаецца далейшым ходам гісторыі. Так, у прывілеі Ягайлы, выдадзеным у 1387 годзе, гаворыцца пра поўную дзяржаўна-палітычную незалежнасць Беларускага гаспадарства. Ды і ў Востраўскім пагадненні 1392 года і Віленска-Радамскім акце 1401 года, падпісаных неўзабаве пасля Крэўскае вуніі, нічога не сказана пра інкарпарацыю Княства ў склад Польшчы.

Пазней, падчас Люблінскага Сойму 1569 года, нашы паслы шматкроць указвалі на падробленасць вядомага акта Крэўскага пагаднення, які палякі скарыстоўвалі ў якасці «гістарычнага аргумента» для абгрунтавання сваіх захопніцкіх дамаганняў у пазнейшыя часы.

**Язэп ЮХО.**

## Дзе падзелася каралеўская карона Вітаўта вялікага?

Менавіта пры вялікім князі Вітаўце (1350—1430) Беларускае гаспадарства стала найбуйнейшай еўрапейскай дзяржавай. Але цяжкі і напружаны быў шлях гарадзенскага князя да вялікага пасаду, славы і велічы. Доўгі час змагаўся ён са сваім стрыечным братам Ягайлам, Альгердавым сынам, які ў 1388 годзе забіў ягонага бацьку Кейстута. Трапіўшы да Ягайлы ў палон, Вітаўт здолеў уцячы з Крэўскага замка. Хаўруснікам у барацьбе з Ягайлам, які ў 1386 годзе быў абраны польскім каралём, Вітаўт выбраў Ордэн крыжакоў. Урэшце, пасля шэрагу палітычных манеўраў ён дамогся свайго, і Ягайла мусіў саступіць Вітаўту вялікі пасад з умовай васалітэту.

Як вялікі князь Вітаўт праводзіў самастойную палітыку і выношваў задуму стаць каралём. Трагічнае паражэнне ад татараў на Ворскле ў 1399 годзе вымусіла яго, аднак, падпісаць Віленска-Радамскую унію з Польшчай. Праўда, дзякуючы гэтаму хаўрусу, аб'яднаныя войскі Беларусі і Польшчы пазней, у 1410 годзе, выйгралі вайну з крыжакамі. Пасля гэтай перамогі да Вялікага Княства адышла Жамойць. Найважнейшае значэнне для кансалідацыі беларусаў мела і канчатковае далучэнне ў 1405 годзе Смаленскага княства, ажыццёўленае якраз Вітаўтам.

Пра веліч асобы Вітаўта асабліва сведчаць ягоныя геапалітычныя інтарэсы. У часе яго княжання Беларускае гаспадарства мела трывалыя дыпламатычныя дачыненні літаральна з усімі заходнееўрапейскімі краінамі, а гэтаксама Асманскай Турцыяй, Крымскім ханствам і Маскоўшчынай.

Пра многае гаворыць і той факт, што недзе пасля 1410 года наймагутнейшы імператар Святой Рымскай імперыі Жыгімонт і сам папа рымскі Марцін V, шукаючы Вітаўтавай падтрымкі ў змаганні з гусіцкай Чэхіяй, прапанавалі яму каралеўскую карону.

Канчатковае рашэнне каранавацца Вітаўт прыняў на Луцкім з'ездзе 1429 года, куды, дарэчы, на яго запрашэнне прыехаў той самы імператар з жонкаю, кароль Польшчы Ягайла, прадстаўнікі папскага пасада і візантыйскага імператара ды пасольствы іншых дзяржаваў.

Згода Вітаўта прыняць карону з рук імператара сведчыла не толькі пра аўтарытэт нашае дзяржавы і вялікага князя ў Еўропе, але і пра завязванне новага вайскова-палітычнага хаўрусу Вялікага Княства Літоўскага са Святой Рымскай імперыяй. Гэта, натуральна, вельмі напалохала ворагаў Беларусі, найперш польскіх магнатаў, якія як агню баяліся далейшага ўмацавання нашае дзяржавы.

У канцы верасня 1430 года на каранацыю нашага гаспадара ў сталіцу Вялікага Княства з'ехаліся шматлікія госці: вялікі князь маскоўскі, князь мазавецкі, перакопскі хан, валахскі гаспадар, паслы візантыйскага імператара, мітрапаліт Фоцій, магістры прускі і лівонскі ды многія іншыя. Усе цярпліва чакалі, пакуль састарэлы Вітаўт паправіцца ад хваробы і ўстане з ложка. Але лёс распарадзіўся інакш: 27 кастрычніка ён памёр у Троках.

Што ж да кароны, якую везлі з Нямеччыны ў Вільню, то ёсць версія, нібыта палякі, дачуўшыся пра цяжкую хваробу Вітаўта, асмялелі і перахапілі яе па дарозе, абабраўшы пры гэтым да ніткі і імператарскіх паслоў.

**Вітаўт ЧАРОПКА.**

*Культура мовы*

## Не калечце вымаўлення

### *(Пра гукаспалучэнне з санорнымі л, р, у беларускай мове)*

Беларуская літаратурная мова мае свае адметныя заканамернасці ў гукаспалучэнні з санорнымі *л, р*. Як зазначае беларускі фанетыст А. Падлужны ў кнізе «Нарыс акустычнай фанетыкі беларускай мовы» (Мн., 1977, с. 74), «гукі *л, р* сустракаюцца выключна перад галоснымі або пасля іх». І далей: «Досыць часта, асабліва ў запазычанай лексіцы, яны сустракаюцца ў канцы слова пасля зычных. Але ў такім выпадку пасля зычнага паяўляецца рэдукаваны галосны — санорны і тут аказваецца ў суседстве з галосным (м'ін'істър, с'п'ектакъл')». Зазначым, што тут аўтар, відаць, не асмеліўся сказаць больш дакладна: «Перад канцавым санорным і папярэднім зычным узнікае галосны гук». Звычайны галосны, а не рэдукаваны, бо ў беларускай літаратурнай мове рэдукаваных няма (яны сустракаюцца ў дыялектнай мове). Але тады трэба было б сказаць, што і на пісьме яго варта абазначаць, а гэта ўжо разыходзілася б з расійскаю моваю-ўзорам.

Рэальна ж у беларускай мове санорныя гукі *р, л* не толькі «не ўжываюцца ў трохгукавых і двухгукавых пачатковых спалучэннях як іх першыя элементы» (параўнаем: *ільну* або *лёну*, але не *льну; іржа*, а не *ржа)*, але і ў фінальных (канцавых) спалучэннях, бо перад канцавым *л* ці *р* узнікае галосны гук. Гэта пацвярджае і напісанне слоў *горан, віхар* (параўнайце ў расійскай мове: *горн, вихрь), свідар (свідраваць), венгерац* (рас. *венгр)*.

Наш сучасны правапіс, каб не аддаляцца ад расійскага, звычайна не адлюстроўвае на пісьме гэтай фанетычнай заканамернасці беларускае мовы, за выключэннем асобных слоў. Рэгулярна на пісьме абазначаюцца толькі націскныя галосныя перад гэтымі санорнымі: *бабёр, журавель, віхор, рубель* і г. д.

Каб не калечыць, не нявечыць натуральнае беларускае вымаўленне, на пісьме павінна адлюстроўвацца гэтая фанетычная з'ява не толькі ў пачатку слова і націскным канцавым складзе, але і ў ненаціскным фінальным складзе, г.зн. трэба пісаць: *ансамбаль, артыкаль, бурмістар, літар, метар (мэтар), міністар, монстар, цэнтар* і г. д. Не складаюць тут выключэння і ўласныя асабовыя назвы: *Аляксандар* [такое напісанне бачым у календары на 1992 год «Славутасці Беларусі»: «10. Вялікі князь Аляксандар (1492 — 1506)»], *Пётар* ці *Пётра, Пятро* (у вытворных *Пятрусь, Петрык, Пятрок* гэтая заканамернасць вытрымліваецца — санорны знаходзіцца побач з галосным).

Каб запярэчыць такому вось натуральнаму напісанню гэтых слоў, спасылаюцца на расійскую мову, дзе спалучэнне зычных з канцавым санорным не падзяляецца галосным *(литр, метр, министр, кадр)*. Але ж па-расійску пішацца і *бобр, вихрь, журавль, корабль, рубль* і г. д. І вось чаму: тут у канцавым спалучэнні зычных фінальны санорны аглушаецца і тым самым здымаецца цяжкае для маўлення спалучэнне зычных. У беларускай мове свая заканамернасць: перад канцавым санорным і папярэднім зычным устаўляецца галосны гук, які ліквідуе спалучэнне зычных. Таму заканамернае ў нас *нораў* (а не «нраў»), *венгерац* (не «венгр»), *водар, свідар, віхар, монстар, Зміцер*.

Дык ці будзем паўтараць чужое і ганьбаваць сваё? Ці адродзім свае натуральныя формы слоў і ў арфаграфіі, каб падтрымаць арфаэпічныя (маўленчыя) нормы нашай нацыянальнай мовы?

**Павел СЦЯЦКО.**

*Мова і мы*

**С. ДЖУДЖАЎ**

## Мовы, як народы — змагаюцца, квітнеюць, паміраюць...

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 24, 25.*

Функцыяніраванне чалавечага грамадства засноўваецца на мове. Знішчаючы мову, знішчаюць і грамадскі арганізм, для якога яна служыць апорай.

Асіміляцыя моў і культур не адбываецца знянацку, раптоўна. Яна праходзіць паволі, няўлоўна, паслядоўна. Звычайна вылучаюць два этапы гэтага працэсу: фаза частковай, або няпоўнай, асіміляцыі, і фаза татальнай асіміляцыі.

На раннім этапе асіміляцыі небяспека знікнення яшчэ не з'яўляецца фатальнай. Так, прыкладам глыбокага пранікнення англійскай мовы ў мовы народаў Далёкага Усходу, Акіяніі і Заходняй Афрыкі, аднак без выцяснення саміх моў, з'яўляецца «пінджын-інгліш» — разнавіднасць англійскай мовы, у якой англійская лексіка, марфалагічна і сінтаксічна змененая, спалучаецца з элементамі кітайскай граматыкі. Ператварэнне мовы ў мясцовую гаворку таксама з'яўляецца фазай няпоўнай асіміляцыі. Аднак у гэтым выпадку працэс знішчэння старой мовы зайшоў ужо дастаткова глыбока.

Для абароны нацыянальных культур, што знаходзяцца пад пагрозай, і выратавання культурнага і моўнага плюралізму сучаснага свету неабходна як можна хутчэй урэгуляваць міжмоўныя адносіны. Неабходны хуткія і рашучыя меры па ліквідацыі моўных канфліктаў і дыскрымінацыі моў і культур, па ахове ўсіх нацыянальных і этнічных моў, гаворак, дыялектаў, мясцовых і абласных культур, што складваюцца на грунце моўнай дзейнасці.

Эфектыўным сродкам можа служыць міжнародная наднацыянальная мова, што не адносіцца да якой-небудзь этнічнай групы, нацыі або групы нацый. У цяперашні час не існуе нацыянальнай мовы, якая б адпавядала гэтым умовам. Такую функцыю магла б выконваць толькі штучная мова, гэта значыць мова кадыфікаваная, спланаваная, скампіляваная, рацыяналізаваная і прыстасаваная да сучаснага жыцця.

Мовы не нараджаюцца дасканалымі. Яны становяцца дасканалымі ў выніку доўгай і складанай эвалюцыі. Гэта эвалюцыя можа ажыццявіцца толькі ў сацыяльным асяроддзі і толькі з дапамогаю сацыяльнага арганізма — народа.

## Магутны рыцар нашай незалежнасці

*Заканчэнне. Пачатак на с. 4.*

інтэнсіўныя працэсы далучэння да здабыткаў хрысціянскай цывілізацыі і культуры. Новая хваля асветніцтва, якую прынесла Рэфармацыя, стымулявала шпаркае ўзнікненне друкарняў, кнігавыдавецтваў, шматлікіх паперняў для вырабу паліграфічных матэрыялаў. Князю Радзівілу належыць заснаванне першых кнігавыдавецтваў у Берасці (1553) і Нясвіжы. Для навучання малых дзетак у беларускай мове быў падрыхтаваны рэфармацыйны «Катэхізіс», які склалі Мацей Кавячынскі, Сымон Будны, Лаўрэн Крышкоўскі. Дзякуючы мецэнацтву Радзівілаў Чорнага і Рудога па навуку ў еўрапейскія універсітэты выправілася шмат беларускай шляхты і нават мяшчан. Выхаванцы з Вітэнберга, Лейпцыга, Кенігсберга, Базеля, Цюрыха і Жэневы прыносілі ў Беларусь і распаўсюджвалі сярод грамадства магутныя гуманістычныя ўплывы. Дэмакратызацыя палітычнага жыцця адбывалася пад вызначальным палітычным уздзеяннем магнатаў і шляхты кальвіністкай арыентацыі. Выдатны плён гэтага ўздзеяння на доўгія часы застанецца ў нашай культуры. Перш за ўсё, гэта датычыцца дэмакратызацыі і гуманізацыі законаў дзяржавы, што выразна адбілася ў юрыдычных нормах Літоўскага статута. Маладомым сёння яшчэ застаецца аўтарства братоў Радзівілаў у правядзенні заканадаўчай ініцыятывы наконт увядзення ў Статут патрыятычных, незалежніцкіх фармулёвак, якія мусілі бараніць беларусаў ад польскай экспансіі.

Князь Радзівіл Чорны неаднаразова знаходзіўся ў тагачасным Менску-Літоўскім, часцей па справах вайсковага характару. Яго фундацыяй тут быў таксама закладзены ў 1556 годзе евангелічны Рэфармацкі Збор. Патрыятычная менская шляхта і мяшчане падтрымлівалі Рэфармацыю. Захавалася некалькі дакументаў, якія сведчаць пра духоўнасць нашых бацькоў. Напісаны чысцюткай беларускай мовай тэстамент менскага жыхара князя Яраша Жыжэмскага выразна даводзіць нацыянальны лад тагачаснага менскага насельніцтва. Яно ж пабудавала і цэлую вуліцу, якая ад назвы рэфармацкай бажніцы пачала называцца Вялікая Зборавая.

Князь Радзівіл Чорны валодаў некалькімі мовамі. Найбольшыя спрэчкі і цяжкасці ў вызначэнні ягонай нацыянальнай пазіцыі чамусьці выклікае тое, што надрукаваная ў Берасці вядомая Біблія (паводле ўзору Бібліі французскіх кальвіністаў) была перакладзена па-польску, або тое, што ў перапісцы ўжываў польскую мову. Пры гэтым не ўлічваюцца тагачасныя палітычныя адносіны з Польшчай і дзейнасць князя ў якасці дыпламата. Таму, завяршаючы кароткі жыццяпіс найяснейшага князя Мікалая Радзівіла Чорнага, мяркуем апублікаваць (упершыню) некаторыя фрагменты ягонага тэстамента, які быў напісаны 27 траўня (мая) 1565 года, за дзень да яго смерці. Князь загадаў напісаць сваё завяшчанне на праўдзівай беларускай мове. Значыць, менавіта яна была для яго роднай.

**Лявон ЛІПЕНЬ.**

Чытачу — з рэдакцыі

# КАЛІ ЎДЗЯЧНЫЯ — НЕ ЗАГАДВАЙЦЕ, А ДЗЯКУЙЦЕ

**Шаноўны рэдактар, пастаянна чытаю «Наша слова», але не магу зразумець Вашу пазіцыю ў важным, лічу, пытанні: як правільна прамаўляць слова падзякі? Здавалася б, норму больш чым хто павінны ведаць вядучыя тэлебачання, іх жа вучаць, але адны гавораць: «Дзякую!», другія — «Дзякуй!» Чытаю ў «Народнай газеце» — тое ж самае. У вас бывае то так, то гэтак. «ЛіМ» піша: «Дзякуй, Маладзечна! Дзякуй, фестываль!» А вось Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч заўсёды абавязкова кажа: «Дзякую!» Каму давяраць?**

**М. МАЛАШЧАНКА.**
**г.Магілёў.**

**Шаноўны чытач,** давяраць у гэтым пытанні, безумоўна. можна Станіславу Станіслававічу Шушкевічу. Не таму, што займае самую высокую пасаду ў нашай дзяржаве, а з прычыны ягонай грунтоўнай культурнай падрыхтоўкі. Хоць сам ён па адукацыі фізік, але выхоўваўся ў сям'і пісьменнікаў, дзе выдатна ведалі і шанавалі беларускае слова.

У той жа час, магчыма, асабліва не варта ў дадзеным выпадку наракаць на вядучых тэлебачання ці журналістаў, бо гэтая недарэчнасць з нормай закладзена нават у акадэмічных даведніках. Вазьміце «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» ў пяці тамах (Мн., 1978) і самі пераканаецеся. Дзіўна, але, тлумачачы значэнне слова, ТСБМ не спасылаецца на яго этымалогію. А паходзіць яно ад старажытнаславянскага «дякло», у пазнейшым беларускім вымаўленні — «дзяка, падзяка», што азначала «даніна хлебам». Ад пары, калі гэта было, застаўся прыгожы рытуал — падносіць пры сустрэчы шаноўным гасцям хлеб-соль на прыгожым ручніку.

Сапраўдны сэнс слова пачаў губляцца ў савецкі час з-за таго, што яго ва ўмовах імперыі як бы запазычылі ў расіян (форму) ад выразу «спасибо». У сваю чаргу расійцы з-за імперскай тусоўкі народаў і моў, нягледзячы нават на моцныя навуковыя сілы расійскіх лінгвістаў, таксама тое-сёе істотнае згубілі. У прыватнасці, звярніце ўвагу на ўжыванне выразу «спасибо (спаси Бог) Вам». Недарэчна, праўда? Жадаюць, каб Бог для вас некага ўратаваў. Каго?

Дарэчы, пацвярджэнне таго, што гэта слова азначае даніну — тое, што аддаецца (ці хоць бы прамаўляецца, як рытуальны намер аддаць нешта вельмі каштоўнае) у знак удзячнасці, можна знайсці ў нашых добрых паэтаў — выдатных знаўцаў беларускай мовы. Вось Якуб Колас: «А прынясеш што — без падзякі Ужо не выпусціць, заплаціць, А на дармшчыну не кваліць». Другі паэт, выхаваны савецкай рэчаіснасцю, добра ведаючы, каму беларусы абавязаны былі плаціць даніну, напісаў: «За радасць, шчасце наша Маскве падзяку шлём». А не загадваем ёй — «дзякуй» (нам).

Словам, калі некаму ўдзячныя, не ўжывайце недарэчную, у дадзеным выпадку загадную форму дзеяслова «дзякаваць», а проста дзякуйце, і будзе добра.




### *Д. ДЖАРВІС: ХРАНІЧНАЯ СТАМЛЯЛЬНАСЦЬ (слабасць)*

Уначы бывае цяжка заснуць, і сон гэты павярхоўны. У такім разе патрэбна лячыцца мёдам, які заспакаяльна дзейнічае на арганізм. Праз 20 мінут пасля прыёму мёд паступае ў кроў. Што да хранічнай стамляльнасці, то народная медыцына не ведае лепшага лекавага сродку, чым кубачак мёду з дабаўленнем трох чайных лыжачак яблычнага воцату. Слоік з гэтай сумессю можна трымаць у спальні, прымаючы перад сном па дзве чайныя лыжачкі. Калі праз паўгадзіны заснуць не ўдаецца, патрэбна прыняць яшчэ дзве чайныя лыжачкі сумесі. Пры вялікай слабасці давядзецца прыняць некалькі лыжак, а ўначы, калі пасля абуджэння нельга заснуць, трэба прыняць сумесь яшчэ раз. Такі сродак значна лепшы за любое аптэчнае снатворнае, паколькі мёд няшкодны для арганізма. У спалучэнні з яблычным воцатам, як лічыць народная медыцына, ён яшчэ больш эфектыўны.

Для таго каб вызначыць, ці дастаткова адпачыў арганізм за ноч, патрэбна праверыць рэакцыю ранішняй мачы на лакмусавую паперку. Пры нармальнай кіслай рэакцыі паперка пачырванее. Калі ж рэакцыя мачы пакажа (паперка пасінее), што ўзровень рэзервовай сілы арганізма нізкі, трэба нацерці рукі разведзеным яблычным воцатам (на паўшклянкі цёплай вады адна чайная лыжачка). Растворам расціраюць спярша адну руку і плячо, затым другую руку; паступова трэба расцерці грудзі, жывот, спіну, клубы, галёнкі і, нарэшце, ступні ног. Ручніком не карыстацца. Расціраць скуру абедзвюма рукамі да поўнага ўсмоктвання раствору, які ўсмоктваецца вельмі хутка.

Тым, хто пакутуе ад хранічнай стамляльнасці, патрэбна адмовіцца ад мыла. Праверце рэакцыю вільготнай паверхні кавалка мыла і вы ўбачыце, што яна шчолачная. Таму мыла не садзейнічае выхаду са стану хранічнай стамляльнасці. З другога боку, у састаў многіх раслін уваходзяць кіслоты. Калі ў якасці мыючага сродку скарыстоўваецца кіслата, скура атрымлівае натуральны прадукт, які ёй адпавядае; кіслата, мабыць, стымулюе прыток крыві да скуры. Пры выкарыстанні мыла з вадою (шчолачнага раствору) скура бляднее, і, каб яе ажывіць, даводзіцца ўжываць касметычныя сродкі. Бледная скура сведчыць пра кіслотнае галаданне. Пры нармальным кровазабеспячэнні скура ружавее. Мыла неабходна выкарыстоўваць для ачышчэння паверхні скуры ад бруду, але рэкамендуецца карыстацца ім як мага меней, а пасля мыла трэба спалоскваца разбаўленым яблычным воцатам для стварэння кіслай рэакцыі скуры.

## СТАРОНКА З ГІСТОРЫІ

У Дзятлаўскім музеі народнай славы з'явіўся новы раздзел. Ён прысвечаны беларускай суполцы, якая існавала на Дзятлаўшчыне ў 30-я гады. Пры суполцы працавала школа, дзе настаўнікі-патрыёты выхоўвалі ў моладзі пашану і любоў да ўсяго беларускага. Суполкай быў створаны таксама аркестр народных інструментаў, які з поспехам выступаў перад мясцовымі жыхарамі. У тыя часы, калі польскія ўлады душылі ўсё беларускае, гэта было своеасаблівым подзвігам.

Моладзь з цікавасцю знаёміцца з новай экспазіцыяй, якая ўзнаўляе невядомую старонку з гісторыі краю.



**На здымку:** дырэктар музея Ф. Ф. Красюк з вучнямі сярэдняй школы № 1 г. п. Дзятлава сярод экспанатаў новага раздзела.

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**
**БЕЛІНФАРМ.**

***Вук ГЛІГОР'ЕВІЧ***

## АФАРЫЗМЫ

**У прыродазнаўчых навуках усё пачынаецца з нуля. У грамадскіх — ад пэўнай даты.**

**З улікам гістарычнай дыстанцыі трэба чакаць павелічэння колькасці сакратароў камсамола.**

**Некаторыя бессмяротныя падаюць знакі жыцця. Нават магільшчыкам нельга больш верыць.**

**Каб адзінкі жылі ў вяках, мноства павінна жыць ад сёння да заўтра.**

**Я апынуўся ў лепшай будучыні! Шліце грошы!**

**Можна было б жыць як багі, але мы атэістычная краіна.**

**Гусі, якія выратавалі Рым, не аб'яўляліся лебедзямі.**

**Усё ж такі нас круцяць, шаноўны Галілей!**

**З палітычнай функцыяй можаце, калі хочаце. З сексуальнай можаце, калі можаце.**

Пераклаў Іван ЧАРОТА.

## *ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?*

**30 ЧЭРВЕНЯ, СЕРАДА**

**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**20.00. Рок-архіў. Музычная праграма.**
**21.00. Панарама.**
**22.10. Адкрыццё Міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай узаемадзеянню нацыянальных і рэлігійных культур Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны. Перадача з Гродна.**
**23.25. НІКа.**

**1 ЛІПЕНЯ, ЧАЦВЕР**

**12.00. Кірмаш гумару-93.**
**14.30. «Ідзі і глядзі». Мастацкі фільм. 1-я серыя.**
**15.40. Беларуская мова.**
**16.10. Гісторыя.**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**21.00. Панарама.**
**22.10. Пазіцыя ўрада.**
**22.25. «У добры шлях!» Прэс-канферэнцыя для выпускнікоў школ па пытаннях працаўладкавання і паступлення ў навучальныя ўстановы. Прамая лінія.**

**2 ЛІПЕНЯ, ПЯТНІЦА**

**14.05. «Ідзі і глядзі». Мастацкі фільм. 2-я серыя.**
**15.25. Беларуская мова.**
**15.55. Гісторыя.**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**21.00. Панарама.**
**23.20. НІКа.**

**3 ЛІПЕНЯ, СУБОТА**

**13.30. «Круглянскі мост». Мастацкі фільм.**
**15.30. Тэлебом. Шоу-конкурс юных выканаўцаў.**
**16.30. Студыя «Тэлесябрына». «Будзьце з намі!» Да Дня вызвалення Беларусі.**
**21.00. Панарама.**
**23.05. НІКа.**

**4 ЛІПЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

**14.25. Кінаэкран-93. Ліпень.**
**16.25. Існасць. 200-годдзе Менскай праваслаўнай епархіі.**
**20.00. Панарама.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, г. Менск. вул. Румянцава, 13. Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Зак. 277.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.

Наклад 8504 паасобнікі. Падпісана ў друк 28.06.1993 г. у 15 гадзін.